*Жыве Беларусь! Жыве вечна!*

# Голас Камбатанта

газэта ветэранаў беларускага вызвольнага руху

N 1,
студзень 2000 г.
Адрас для карэспандэнцыі:
231800 Беларусь, Гродзенская вобл., г. Слонім-9, а/с 3.
Рэдактар Сяргей ЁРШ

## Шаноўныя ветэраны!

Вы трымаеце ў руках першы нумар газэты «Голас камбатанта», выдадзены адмыслова перад Гарадзенскай сустрэчай. Калісьці падобныя выданьні выходзілі на эміграцыі («Зважай», «Камбатанцкі голас» ды інш.), але ўжо даўжэйшы час яны не існуюць. Вельмі ж мала засталося ветэранаў Беларускага вызвольнага руху!..

Цяпер жа мы распачынаем выданьне ветэранскай газэты на Бацькаўшчыне. Камбатант — гэта франтавік, удзельнік вайны (вызвольнага змаганьня), сябра па зброі. Вельмі доўга нашыя старыя змагары за волю й незалежнасьць Бацькаўшчыны цярпелі й церпяць яшчэ сёньня зьдзекі ад акупанцкай улады. У свой час яны ахвяравалі маладосьць, здароўе, не шкадавалі сваіх жыцьцяў дзеля шчасьця Беларусі. Хтосьці быў у Саюзе беларускай моладзі, хтосьці ў Беларускай краёвай абароне, Беларускай незалежніцкай партыі, нехта партызаніў супраць бальшавікоў, быў у маладзёжным падпольлі. Тысячы герояў, многія зь якіх пакуль застаюцца бязыменнымі, палеглі ў гэтым сьвятым змаганьні...

«Голас камбатанта» будзе распавядаць і пра гераічнае мінулае ветэранаў Беларускага вызвольнага руху, і будзе пісаць пра новае пакаленьне патрыётаў, якое калісьці высока ўздыме над вольнай Бацькаўшчынай бел-чырвона-белы сьцяг. Пераемнасьць розных пакаленьняў змагароў Беларускага вызвольнага руху мусіць быць адноўлена!

Мы чакаем ад нашых ветэранаў іх успамінаў, згадак пра загінуўшых і памерлых сяброў, фотаздымкаў яшчэ невядомых нам герояў. Усе гэтыя матэрыялы будуць зьмяшчацца на балонках «Голасу камбатанта».

# Успамін пра Віленскую сустрэчу



На пачатку ліпеня 1997 года ў Вільні праходзіла сэсія Эўрапэйскага сэктару Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Падчас гэтага мерапрыемства адбылася першая на Бацькаўшчыне сустрэча ветэранаў Наваградзкага швадрону з удзелам Барыса Рагулі.

Ветэранаў было ня шмат. Са Слоніму прыехаў Андрэй Вайтовіч, з Любчы — Уладзімер Сіўко, з Баранавіч — Пётра Рашэтнік, з Віленшчыны — Кастусь Шышэя і Мікола Рулінскі...

Раніцай 3 ліпеня мы паехалі ў віленскі аэрапорт сустракаць Барыса Рагулю. Там сабралося больш за дзесятак беларусаў. У нацыянальных беларускіх строях сустракалі Рагулю Андрусь Старавойтаў і Леакадзія Мілаш. Чамусьці, нацыянальных сьцягоў не было...

Мы стаялі, гаварылі. Мікола Рулінскі прапанаваў астатнім ветэранам швадрону пры зьяўленьні Барыса стаць шыхтом і каб Сіўко, як былы камандзер швадрону, склаў рапарт. Рагуля зьявіўся раптоўна, у 13.10. Сіўко спрабаваў даць рапарт, але дзе там! Каля Рагулі ўжо быў Вайтовіч. — Андрэй! Андрэй! — абдымаў яго Барыс. Падыйшлі й астатнія.

Неўзабаве ўтварыўся імправізаваны шыхт. Уладзімер Сіўко перад ім пачынае чытаць свой адмыслова напісаны верш:

## "Швадрон, зважай!

***Швадрон, зважай! Раўняй на камандзіра!***
***Ад правага да левага лічы...***
***Ня важна, што цяпер мы не ў мундзірах,***
***І лёс нам сёньня варту даручыў!***
***Мы дня свабоды сотні год чакалі —***
***Адчаю поўных, крыўдаў і трывог.***
***Па ўсёй планеце нас раскідалі,***
***Ня вымераць пакутлівых дарог...***
***Дарэмна ўсё... Ізноў нас ашукалі,***

*працяг на бал. 2*

# Успамін пра Віленскую сустрэчу

*Ізноў Радзіму душаць чужакі...*
*Аднак пакорна рук мы не складалі,*
*Не заржавелі сэрцы (і штыкі)...*
*Ня гасне праўда, вера і надзея,*
*Што дажывём яшчэ да сьветлых дзён.*
*І хоць рады ўжо моцна парадзелі*
*І кожны з нас даўно не маладзён.*
*А сьветлы дзень яшчэ за даляглядам,*
*Туман усюды, дзе ні аглянуся,*
*Я ўпэўнены: пад Боскай уладай*
*Народ здабудзе волю Беларусі!"*



***Сустрэча праз 50 гадоў. Аляксей Анішчык і Барыс Рагуля***

Нейкі час мы яшчэ здымалі-



***Леакадзія Кавальчук (Шышэя), сябра падпольнай «Чайкі» у Слоніме ў 1946 г.***

ся на памяць, рабілася відэяздымка, а пасьля на машынах мы паехалі на кватэру віленскага беларускага дзеяча, арганізатара сэсіі Хведара Нюнькі. Там зьявіўся Аляксей Анішчык (паэт Чэмер), стары сябра Рагулі. Яны не бачыліся больш 50 гадоў...

Спачатку плянавалася, што Эўрапэйскі сэктар зьбярэцца ў беларускіх хатках на Жыгімонта, 12. Аднак, праўдападобна, Рагуля вырашыў зьмяніць месца — была арэндаваная канфэрэнц-заля ў гатэлі "Летува". Дэлегатаў засялілі ў інтэрнат кааператыўнага тэхнікума на вуліцы Ўкмергес, 11. Ветэраны дамовіліся з Барысам пра сустрэчу "у вузкім коле" на наступны дзень.

Рагулеўцы хваляваліся, бо іх былы камандзер усё не ехаў. Аказалася, што Рагуля быў у Анішчыка, а да таго пасьпеў пабываць у Лявона Луцкевіча. Арганізатары спрабавалі навязаць Барысу сваю праграму, падрыхтавалі на Жыгімонта, 12 абед, але Рагуля не паддаваўся. — Мне трэба пабыць з сябрамі! Я абяцаў! — казаў ён. Хто мог спыніць Барыса Рагулю, які вырашыў сустрэцца з былымі баявымі сябрамі?!

Сустрэча адбылася на кватэры Кастуся і Леакадзіі Шышэяў. Спачатку Андрэй Вайтовіч расказваў Рагулю пра свае прыгоды й пакуты пасьля дэсанту ў 1944-ым. Нібыта даваў свайму камандзеру справаздачу аб зробленай рабоце... А пасьля ўсе селі за стол: Рагуля, Вайтовіч, Сіўко, Шышэі, Рулінскі, Рашэтнік і я. Выступіў з кароткай прамовай Барыс, расказаў пра свае прыгоды перад арыштам у 1945 годзе Ўладзімер Сіўко.

Скарыстаўшы ўзьнікшую паўзу, я ўставіў у агульны кантэкст пытаньне: "Спадар Барыс, вы ўчора нешта хацелі расказаць пра Родзьку?". — Так, Родзька быў, безумоўна, патрыётам, — гаворыць Рагуля. — Але ён ня ведаў саветаў, ён ніколі ня жыў у Савецкім Саюзе, і думаў, што тут магчыма ўзьняць партызанку...

— Родзька быў сволач! — уставіў Кастусь Шышэя. — Ён нас, наваградзкіх, хацеў зьнішчыць. Чаму ён толькі нас паслаў на Беларусь, а не тых, хто прыйшоў зь ім?

— Не, Косьця! Я ня думаю, што ён хацеў вас зьнішчыць, — кажа Барыс. — Можа ён вам больш давяраў?!

Шышэя не здаваўся, а Рагуля асьцярожна бараніў Усевалада Родзьку...

З той сустрэчы засталіся здымкі, але ўжо няма некаторых людзей. Напрыканцы ліпеня 1997 года памёр Лявон Луцкевіч, зь якім я спадзяваўся сустрэцца яшчэ раз. У 1999-ым ня стала Лявона Караля...

Рагуля ірваўся на Беларусь. Хацеў хоць на які дзесятак кіламетраў заехаць за летувіска-беларускую мяжу і вярнуцца назад. Гэта зусім адпавядала ягонай натуры. Але мы агульнымі намаганьнямі яго адгаварылі ад гэтага пляну. На жаль, на Беларусі панавала варожая ўлада, якая ўсё яшчэ магла яго зьнішчыць...

**Сяргей ЁРШ** (фота аўтара)

# Вершы Віктара Сікоры

## У турме

І сумна, і цяжка навокал,
І сьцены нямыя вартуюць мяне.
Жыву, як пустыньнік, адзін-адзінока
У Вілейскай страшэннай турме.

І чую я толькі, як вецер
здалёка,
Прыбегшы, завые, заплача ў кутку.
Ці шум самалёта ў небе
высокім,
Ці грукат калёс ублізі,
на мастку...

Зь людзей я ня бачу нікога,
Хоць скрытна гляджу ў акенца сваё.
І стане мне шкода жыцьця
маладога,
Што марна так гіне яно...

## Паўстань

Паўстань, замучаны няволяй,
Наш люд, зьнявечаны нядоляй.
Прачніся, бедны мой народ,
Настаў наш час, крануўся волі крыгаход.
Зьдзекі цярпець ня будзем
болей.
Ты — ўладар зямлі сваёй,
Азёр, лясоў, палёў бязьмежных,
Бацькаўшчына мая аблітая
крывёй
Дзядоў, бацькоў, загінуўшых за незалежнасьць.
Устань, прачніся, хопіць спаць!
Нас сонца будзіць — яно ў
зяніце.
Хутчэй уставай, колькі звацъ!?
Наша сумленьне даўно кліча
Вырвацца з праклятае няволі,
Уладу ў свае рукі ўзяць!

## Да сустрэчы

Да пабачэньня, да сустрэчы,
Мае сяброўкі і сябры.
Яшчэ пабачымся, дарэчы.
Не перашкодзяць тыя дні,
Якія пройдуць у выгнаньні,
За долю нашу ў змаганьні.
Жыцьцё аддаць, такі наш лёс.
Мы станем усе на барыкады,
Няхай дрыжаць ад страху гады.
Будзь ты прàкляты, крывісос!
Мы пойдзем строем адзіным
На сьмерць за Бацькаўшчыну-Радзіму.
Прыйшоў наш час, у апошні бой!



## Ідзе патрыёт!

Нам не патрэбна такая ўлада,
Якая ганьбіць наш бедны люд.
У ёй пануе крыўда, здрада,
Колькі прынесла яна пакут.

Не шкадавала абяцанак,
За дзень хлусіла, як магла зноў —
І надыходзіў толькі ранак,
Яна адмаўлялася ад сваіх слоў.

Каму патрэбна такая ўлада,
Якая ненавідзіць свой народ,
Яго традыцыі, звычаі, усё
беларускае, нам дарагое?
Прэч з дарогі! Ідзе патрыёт!

## Беларусь

Адна сьвяцінка, мая сьлязінка,
Адна нязнанка, мая заранка.
Ад родных ніў, гора, пакут,
На ўсё жыцьцё мая каханка.

Маё роднае ты поле,
Радасьць, шчасьце і прымус.
Не растануся з табой ніколі,
Мая Бацькаўшчына —
Беларусь!

## Не шукай

Не шукай ты мяне
Ані днём, ні ў начы.
Не шкадуй ты мяне,
Мне ніяк не ўцячы.

Вочы поўныя сьлёз,
Гора побач са мной.
Гэты цяжкі свой лёс
Пеpажыў, перанёс.

Толькі побач са мной
Ты была, ноччу й днём.
Так прашу я цябе,
Не гары тым агнём.

Не пытай у мяне
Дзе я быў, дзе я ёсьць.
Абдыму, пратулю,
Я кахаю да сьлёз.

***

**Даведка «ГК»:**

**СІКОРА Віктар**, камандзір беларускага партызанскага атрада на Пастаўшчыне ў 1945 г.

Нарадзіўся ў 1925 г. у в. Малыя Алашкі Шаркоўшчынскага раёна, цяпер — Пастаўскі раён. Скончыў 6 клясаў польскае школы, а падчас нямецкай акупацыі — шасьцімесячныя курсы, пасьля якіх у 1942 г. паступіў у Пастаўскую настаўніцкую сэмінарыю. Адзін з кіраўнікоў СБМа ў Паставах.

Зь вясны 1944 г. — сябра БНП, кіраўнік Пастаўскае філіі партыі. Летам 1944 г. застаўся на Беларусі для падпольнай працы. Быў прызваны ў Чырвоную Армію. У лістападзе 1944 г. дэзэрціраваў, хаваўся ў родных мясьцінах. Вясной 1945 г. пайшоў у лес, арганізаваў партызанскі атрад, які налічваў некалькі дзесяткаў чалавек. У жніўні 1945 г. здаўся савецкім уладам, быў амнісьціраваны. Жыў пад наглядам у роднай вёсцы. Арыштаваны 5 сьнежня 1945 г., утрымліваўся ў Вялейскай турме. Быў асуджаны па арт. 63-І УК БССР да 10 гадоў пазбаўленьня волі з “паражэньнем у правах” на 5 гадоў. Быў на залатых прыісках ў Якуціі, пасьля — у Тайшэцкім “Азерлагу”. На Беларусь вярнуўся напрыканцы 1954 г.

Жыве ў в. Малыя Алашкі.

# Знойдзена пахаваньне беларускіх паўстанцаў?

30 лістапада мінулага году інфармацыйнае агенства БелаПАН распаўсюдзіла зьвесткі пра знаходку ў Віцебску невядомага масавага пахаваньня людзей. Адзначалася, што гэтае пахаваньне знойдзена на месцы ўзарванага ў 1936 годзе Ўспенскага сабору. Былі высунутыя дзьве вэрсіі: першая, асноўная — гэта ахвяры фашыстаў, другая — ахвяры НКВД.

У пахаваньні выяўлены парэшткі 375 забітых, а ўсяго іх у магіле — да тысячы чалавек з прастрэленымі галовамі... Журналіст БелаПАН згадвае цікавы факт: пахаваньне было знойдзена ў 50-я гады, падчас пракладкі падземных камунікацый. Аднак тады, па невядомых прычынах, сьпецслужбы праігнаравалі знаходку. І, як нам падаецца, чэкісты "не заўважылі" пахаваньне не выпадкова.

Справа ў тым, што, хутчэй за ўсё, у гэтай брацкай магіле — ахвяры НКВД. Цяжка сказаць, былі яны забіты ў даваенны час альбо пасьля вайны. Аднак ёсьць згадкі, што менавіта ў 1945-46 гадах у Віцебску НКВД упрост на вуліцах расстрэльвала палонных беларускіх паўстанцаў (частка зь іх была з-пад Вяліжу). Магчыма, гэтыя бязыменныя героі й ляжаць у выяўленым пахаваньні...

Раскопкі спынены на час зімы, аднак ніхто не дае гарантыі, што яны будуць даведзены да канца, альбо, што будзе праведзена аб'ектыўнае дасьледаваньне. Чэкісты ўмеюць хаваць свае злачынствы.

# Фотаархіў




У чэрвені 1993 года ў Менску праходзіла сьвяткаваньне 50-годзьдзя Саюзу Беларускай Моладзі (СБМ). Нягледзячы на ўсе перашкоды, арганізаваныя антыбеларускімі ўладамі, Задзіночаньне беларускіх студэнтаў усё ж сабрала ветэранаў СБМа. Людзі прыехалі з усёй Беларусі , з Польшчы ды іншых краін. Сьціпла, але годна беларускія патрыёты тады адзначылі гэтае вялікае сьвята. Значэньне СБМа пацьвярджае той факт, што і сёньня акупанты працягваюць ганьбіць гэтую незалежніцкую беларускую арганізацыю і ейных сяброў. Нам жа верыцца, што прыйдзе час, калі сапраўдная беларуская ўлада ўшануе ветэранаў СБМ.

# Адыходзяць ветэраны...

За апошнія гады ня стала шмат выдатных патрыётаў, ветэранаў Беларускага вызвольнага руху. Яны паміраюць і на эміграцыі, і на Бацькаўшчыне. У мінулым годзе ў далёкай Аўстраліі памёр Сымон Шаўцоў, вядомы беларускі дзеяч, адзін з арганізатараў Беларускай Народнай Партыі ў 1940-я гады на Бацькаўшчыне і ў Заходняй Нямеччыне. Якраз у Вільні выйшла ягоная кніжка ўспамінаў і твораў... На Беларусі памёр Аляксандр Баханчык, шматгадовы вязень бальшавіцкіх канцлягераў. Гэтыя й іншыя страты вельмі балючыя, асабліва, калі ты асабіста ведаў гэтых людзей, меў магчымасьць пераканацца ў сіле іх духа, нязломнай волі, бязьмежным беларускім патрыятызьме...

Сьветлай памяці

Уладзімер Кісель

(1922 — 1999)

Сябра падпольнага Саюзу Змаганьня за Незалежнасьць Беларусі (1946-49), шматгадовы вязень бальшавіцкіх канцлягераў і турмаў.